# НАВІНКІ

Пятніца, 29 студзеня 1999 | № 1-2 (9-10) | Кошт свабодны



Тысячы людзей сёньня чытаюць газэту «Навінкі». Як яны ставяцца да нашага выданьня? Наш карэспандэнт апытаў на вуліцы трох выпадковых мінакоў і задаў ім наступныя пытаньні:

## Ці падабаецца Вам газэта «Навінкі»?



***Аляксандар Рыгоравіч, проста прэзыдэнт:*** Канешна! Эта самая чэсная ў Беларуска-Расейскім Саюзе газэта!





***Напалеон III, пацыент псыхіятрычнай лякарні:*** Ыгы! У нас іх уся палата чытае.



***Яўген Скочка, намесьнік усіх сустаршыняў «Маладога Фронту»:*** Ну натуральна, я ж нацыянальна сьвядомы беларус!

## А ці набываеце Вы нашу газэту?

А зачэм? Мне Вашу газэту КГБ рэгулярна дастаўляе.

Не-а! Я што, псіх? Я яе ад рукі перапісваю.

Глупствы! Мне «Навінкі» па блату прыносіць... э-э-э... Ды каго гэта ўвогуле цікавіць?..

## НАС!!!

## Не кажы: мне падабаецца газэта «Навінкі»!
## Кажы: я набываю газэту «Навінкі»!

# АД РЭДАКЦЫІ

## Хто падставіў Прэзыдэнта?

Напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў, калі народ як ніколі мае патрэбу ў даставернай інфармацыі, ворагі беларуска-расейскай інтэграцыі падрыхтавалі чарговую правакацыю. 18 студзеня 1999 г. Дзяржаўны камітэт па друку Рэспублікі Беларусь пісьмом за № 02-01/166 неабаснавана адмовіў у рэгістрацыі газэце «Навінкі», матывуючы гэта тым, што: «...назва «Навінкі» асацыіруецца з шырока вядомым у Беларусі псіханеўралагічным домам-інтэрнатам №3, які знаходзіцца ў пасёлку Навінкі, і пярэчыць артыкулу 5 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі», бо публікацыі аб грамадзянах у выданні з такой назвай будуць рабіць замах на іх гонар і годнасць.

»Газэта «Навінкі» нясе людзям праўду, праўду і толькі праўду. Таму мы разглядаем гэты факт, як спробу зьнішчыць адзін з самых чэсных сродкаў масавай інфармацыі і выставіць сумленных патрыётаў як звычайных дэбілаў і алігафрэнаў.

Каму гэта на руку? Вядома ж тым сілам, якія не зацікаўленыя ў перамозе А. Лукашэнкі на прэзыдэнцкіх выбарах 1999 году. Цень Чыгіра, выкармыша заходніх разьведак, трацкіста і шкодніка паўстае ў поўны рост за дзеяньнямі бюракратаў з Дзяржкамдруку.

Калектыў газэты разам з усёй прагрэсіўнай грамадзкасьцю краіны заяўляе: «Рукі прэч ад чэсных журналістаў!» і распачынае шырокую агульнанародную кампанію «За легалізацыю газэты «Навінкі»!».



ДЗЯРЖАЎНЫ КАМІТЭТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА ДРУКУ

ГОСУДАРСТВЕННЫЙ КОМИТЕТ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ ПО ПЕЧАТИ

220048, Мінск, праспект Машэрава, 11. Тэл. (017) 223 92 31, факс (017) 223 34 35

220048, Минск, проспект Машерова, 11. Тел. (017) 223 92 31, факс (017) 223 34 35

18.01.99 № 02-01/166

Аб рэгістрацыі газэты «Навінкі»

У сувязі з тым, што ўказаная ў заяве аб рэгістрацыі газеты назва «Навінкі» асацыіруецца з шырока вядомым у Беларусі псіханеўралагічным домам-інтэрнатам № 3, які знаходзіцца ў пасёлку Навінкі, і пярэчыць артыкулу 5 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі», бо публікацыі аб грамадзянах у выданні з такой назвай будуць рабіць замах на іх гонар і годнасць, просім прапанаваць іншую назву газеты.

Старшыня М.В. Падгайны

Такімі вось правакацыямі прамышляюць чыноўнікі, абы толькі выклікаць напружанасьць у грамадзтве, пасеяць недавер да выканаўчай улады...

## Мы хочам плаціць падаткі – і спаць спакойна!

22 студзеня адбылася прэс-канфэрэнцыя рэдакцыі газэты «Навінкі», прысьвечаная адмове выданьню ў дзяржаўнай рэгістрацыі.

Было падкрэслена, што легалізацыя «Навінак» зьяўляецца справай культурнай самаідэнтыфікацыі беларускай моладзі, заціснутай між рэжымам і апазыцыяй якія навязваюць маладому пакаленьню міты й стэрэатыпы традыцыйнага грамадзтва.

Дэструкцыя гэтых мітаў і стэрэатыпаў – першая ўмова для самаідэнтыфікацыі і распрацоўкі сапраўднай соцыя-культурнай альтэрнатывы.

Між іншым, рэдакцыя заявіла, што распачынае судовую справу супраць свавольства чыноўнікаў зь Дзяржкамдруку. Слуханьне справы будзе прызначанае ў лютым. Жыве наш беларускі суд – самы гуманны й справядлівы суд у сьвеце!..




Падчас прэс-канфэрэнцыі. «Нас чакаюць вялікія бітвы...»

# МІНІ-НАВІНКІ

## Зноў глушылкі?

Дзіўныя рэчы, якія адбываюцца падчас трансляцыі праграмаў ОРТ, выклікалі глыбокае зьдзіўленьне ў беларускіх тэлегледачоў. Замест звыклай рэкламы пракладак «Олвэйз ультра плюс» ці «Орбіту для дзяцей» на экранах зьяўляецца навязьлівая застаўка з прапановай разьмяшчаць сваю рэкламу ў Беларусі пад гукі




вядомага песьняроўскага хіта «Касіў Ясь канюшыну».

Такая рэч шмат у каго выклікала ілюзію сапраўдных крокаў у галіне інтэграцыі Беларусі і Расеі, калі жыхарам Уладзівастоку й Хабараўску прапануецца выдатная жаночая бялізна ад «Мілавіцы» ці тэлевізары «Віцязь».

На самой справе ня гэтак усё проста, як можа здавацца на першы погляд.

Дэмакратычны Крэмаль вырашыў падтрымаць дэмакратычныя перамены ў Беларусі і распачаў на канале ОРТ агалцелую прэзыдэнцкую кампанію Карпенкі. Ад Калінінграда да Курылаў расейцам прапануюць на чыстай беларускай мове: «Генадзь Карпенка - наш кандыдат! Галасуй, або прайграеш!»

Ня дзіўна, што расейскія палітыкі ўвесь час мусоляць праблему здароўя прэзыдэнта Ельцына й новых прэзыдэнцкіх выбараў у Расеі. Шмат хто з шараговых расейцаў лічыць, што Г.Карпенка - пераемнік Барыса Ельцына на пасадзе прэзыдэнта Расейскай Фэдэрацыі.

Вядома, што афіцыйнаму Менску ня надта падабаецца напампоўваньне мозгаў грамадзянаў перадвыбарчай гістэрыяй. Праблема была вырашана вельмі проста: на мяжы Беларусі й Расеі пачалі дзейнічаць славутыя глушылкі, якія добра сябе зарэкамэндавалі падчас «халоднай вайны». Якасна й без праблемаў на хвалях ВВС або «Голасу Амэрыкі» ў 70-х гадах Сібір й Далёкі Ўсход слухаў: «Гаворыць Мінск. Зараз на Беларусі дванаццаць гадзін.»

Пакуль што глушылкі дзейнічаюць толькі на тэрыторыі Беларусі, але вядуцца распрацоўкі, каб глушыць ненавісную прапаганду ОРТ па ўсім СНД, а замест банальнага «Рэклама ў Беларусі. Тэл.» пусьціць высокаякасны перадвыбарчы ролік «Прашу вашай падтрымкі!»

# Кока-кола па картках

Яшчэ ў канцы мінулага году ў незалежных сродаках масавай інфармацыі зацята мусавалася інфармацыя, што нібыта дзесьці ў правінцыі ўведзеныя карткі на жыцьцёва неабходныя прадукты харчаваньня (маючы на ўвазе малочныя вырабы, яйкі і г.д.).
Зацікавіўшыся гэтай інфармацыяй, з праверкай на месцы выехала экспэртная брыгада нашай газэты. Выявілася, што, як і заўсёды, незалежныя СМІ перабольшваюць і выкрываюць факты.
Экспэртная група выявіла, што з маслам, сьмятанай ды яйкамі ў правінцыі ўсё ў парадку (а інакш і быць не магло: дзе вы бачылі сялянаў, якія купляюць

КУПОН
СКИДКА 100 000 РУБЛЕЙ
КУПОН
ПРЕДЪЯВИ ЭТИ КУ
КУПОН
ВОЗЬМИ НАСТОЯЩУЮ СВЕЖЕ

Купоны на кока-колу выдаюцца па месцы працы ці вучобы.

сельгаспрадукты ў крамах?). Людзі мажуць хлеб тоўстым-тоўстым слоем масла й наварочваюць яешню – лепшую падтрымку на працягу дня. Дык адкуль жа ўзялася інфармацыя пра карткі й талоны?
Трэба прызнаць, што яны сапраўды йснуюць. Справа ў тым, што Рэспубліка Беларусь апынулася ў харчовай блякадзе з боку Захаду, таму насельніцтву катастрафічна не хапае сьнікерсаў, кока-колы, эм-энд-эмз і іншых прадуктаў замежнай вытворчасьці. Менавіта яны й падпалі пад жорсткае нармаваньне, бо знайшліся варацілы-спэкулянты, якія скупалі вялікімі партыямі дэфіцытныя замежныя ласункі й везьлі прадаваць у горад.
Вызначаныя наступныя нормы водпуску названых тавараў на месяц: кока-колы - 2 л, спрайту - 1л, сьнікерсу - 4 шт., орбіт з цукрам - 5 уп., орбіт бяз цукру - 1 уп., і г.д. Як відаць, нормы абсалютна абаснаваныя й рэальныя.
Сапраўды, дзе вы бачылі калгасьніка, які выпівае ў месяц больш за літар спрайту? Тым больш можна набыць і дадатковы літар, але ўжо паводле свабодных рынкавых цэнаў.

# Хадж да рэктарату

Храм Сан-Сіро, дзе захоўваецца турынскі саван, Чанстохова зь яе абразом Маткі Боскай, Бэтлеем... - гэтая тапаграфічную мапу сьвятых месцаў можна сьмела дапоўніць яшчэ адной кропкай - рэктарат БДУ. Справа ў тым, што партрэт Прэзыдэнта на сьцяне кабінэту рэктара А. Казуліна - пэрыядычна плачыць. Выключную зьяву першай заўва-жыў, як заўсёды, просты чалавек з народу - прыбіральшчыца. Здарылася гэта акурат перад чарговым падвышэньнем цэнам на адукацыю для платнікаў. Паток сьлёз з вачэй прэзыдэнта крапаў прама на рэктарскі загад аб павелічэньні кошту навучаньня. Зразумела гэта вклікала ў кіраўніка вышэйшай установы непрыемныя эмоцыі. «А што, калі прэзыдэнцкае вока сапраўды ўсёвідушчае?» Але неўзабаве рэктар супакоіўся, калі заўважыў: партрэт пускае сьлязу й пры кожным падвышэньні цэнаў на прадукты, курсу даляра, аплаты за праезд у грамадзкім транспарце й г.д.
Не прымусіла сябе доўга чакаць сакрэтнае распараджэньне Казуліна аб нерагалашэньні містычнай зьявы. Але што магло перашкодзіць узрушанай прыбіральшчыцы распавесьці пра сьвяты лік сваім суседкам па пляцоўцы, тыя - на працы: Добрая вестка хутка разьнеслася па сталіцы, і вось рэзультат: няма ніякага адбою ад імпульсіўных бабулек. Яны цэлымі днямі тоўпяцца ў прыёмнай рэктара, прапануючы наведальнікам сьвятую ваду - сьлёзы Прэзыдэнта. Кожнага, хто выходзіць з прыёмнай А.Казуліна асаджае рой юродзівых і жабракоў, якія ператварылі прадбаньнік у спраўдную паперць. Платнікі з задавальненьнем бяруць прэзыдэнцкія сьлёзы, якія нібыта дапамагаюць ад завалу на іспытах, а таксама купляюць талісманы й амулеты ад чарговага падаражаньня навучаньня.
Афіцыйны Менск пакуль што ніяк не адрэагаваў на зьяўленьне новага санктуарыюму.



Перад тым, як увайсьці ў рэктарат БДУ, пілігрымы ўпадаюць у містычны транс

# Цэрэтэлі думае пра Беларусь

Працы выбітнага майстра скульптуры Зураба Цэрэтэлі, які «аблагародзіў» сталіцу Расеі сваім непаўторным архітэктурным стылем, неўзабаве возьмецца за Менск. Да чарговай гадавіны ўтварэньня Беларуска-Расейскага Саюзу ў нашай сталіцы зьявіцца помнік Пятру I.
Скульптурная задумка Цэрэтэлі мае наступны выгляд: Пётар I стаіць на трыбуне ў імклівай позе, нібы ўглядаючыся ў сьветлую будучыню братніх народаў. У руцэ ён сьціскае сваю трохвуголку. Манумэнт будзе ўпрыгожаны барэльефам, на якім выяўляюцца сцэны «бітвы пад Лясной».
Да вялікай радасьці мэра Менску Ярмошына аказалася, што праект Цэрэтэлі выпадкова супаў з кампазыцыяй вядомага менчукам помніку Леніну, што на пл. Незалежнасьці. Гэты аспэкт нашмат памяншае кошты на рэалізацыю праекту. Застаецца толькі адпілаваць галаву Ільічу і прыварыць на яе месца імпэратарскую. Вядома, новы помнік Пятру I натуральна ўпішыцца ў архітэктурны ансамбаль плошчы Незалежнасьці.
У наступных плянах вялікага мйстра будуць таксама стварэньне іншых помнікаў выбітным дзеячам беларуска-расейскага яднаньня: Мікалай II са скрыпкай, палкаводзец Сувораў з гранатай і ППШ, генэрал-губэрнатар Мураўёў зь лебедзем і г.д.
Усе гэтыя творы, безумоўна, выклікаюць станоўчую рэакцыю ў жыхароў беларускай сталіцы.

# КАНГРЭС ДЭМАКРАТЫЧНЫХ СІЛАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*Апазіцыянеры ўсёй краіны, яднайцеся!*




# НАВІНЫ

Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук

Орган Аб'яднанай Дэмакратычнай Апазіцыі

Пятніца, 29 студзеня 1999 г. №10(541) Кошт свабодны


***Сёння ў Мінску, у ДК «Сукно», пачынае сваю работу Кангрэс Дэмакратычных сілаў Рэспублікі Беларусь.***



**Са сьветлым пачуцьцём спакойнай упэўненасьці ў заўтрашнім дні ўступае у новы 1999-ы год уся беларуская палітычная апазыцыя. Прыкладам таму стаў чарговы Кангрэс Дэмакратычных Сілаў, што адбываецца 29-30 студзеня ў Менскім ДК «Сукно» і знайшоў у сэрцах усіх сябраў апазіцыі станоўчы рэзананс і глыбокі водгук. Аптымізм, сьветлая накіраванасьць у будучыню - такая была атмасфэра Кангрэсу. Увесь ход ягонай працы пераканаўча сьведчыць аб узрослай прыцягальнасьці, сіле дэмакратычнага лягеру. І таму, напэўна, так аптымістычна і адначасова сьцьвярджальна была сфармуляваная заключная пастанова Кангрэсу: «Сёньняшняе пакаленьне беларускіх людзей будзе жыць у Эўропе!» Чытайце спэцыяльны рэпартаж нашага карэспандэнта.**

У фае ДК «Сукно» людна. Выкінулі апошні, дзевяты нумар «Навінак». У такой мітусьні цяжка вызначыцца, як перадаць настрой глыбокай задаволенасьці, што пануе на Кангрэсе. Таму заданьне рэдакцыі вырашаю пачаць з нарысу партрэту делегата.

Шчуплая дзяўчынка-падлетак, рабеючы, некалі адчыніла дзьверы офісу Беларускай Асацыяцыі Скаўтаў і спужана пасунулася назад. Гэтак моцна дыхнула ёй у твар «Крыжачком», а вушы заклала ад мату і экстрэмісцкіх вопляў. Прайшло 10 гадоў. Дзяўчынка даўно ўжо стала мацёрай дэмакраткай, лідэрам ваенна-спартовага адзелу полацкай філіі «ТБМ» і сёньня, ідучы на чарговую акцыю апазыцыі, з пасьмешкай узгадвае свае палітычныя «унівэрсытэты» Мікіта Чыстова: «Нас тады ўсе за фрыгідных лічылі. У пікеты ня ставілі, на разборкі зь мянтамі ня бралі. Сядоў казаў - куды вам, вы ж на першым шухеры расколіцеся. А я ў 88-ым ужо столькі прыводаў у мянтоўку мела, што на мяне хацелі забойства Машэрава павесіць. А хадзіць на акцыі і пікеты прыходзілася ў ранішнюю зьмену - на 5 гадзіну раніцы. Уставаць увогуле было патрэбна ў тры.»

Ня дзіўна, што з часам да Мікіты прыйшло майстэрства. Тое высокае майстэрства, калі аднаго дотыку рукі дастаткова, кабператварыць самы беспэрспэктыўны хіленькі збор подпісаў пад Хартыяй'97 у агульнагарадзкі страйк з смачнымі вулічнымі патасоўкамі паміж мінакамі і АМАПам. А разам з майстэрствам прыйшла і грамадзка-партыйная сталасьць. Хутка Мікіту выбіраюць дэпутатам рэдкалегіі Маладога Адраджэньня, а неўзабаве й лідэрам ваенна-спартовай фракцыі ТБМ. Старшыня мясцовай арганізацыі АГП распавядае: «Я заўсёды зь вялікай зацікаўленасьцю назіраю, як Мікіта працуе зь людзьмі. Ня памятаю, каб яна хоць раз згубілася, або аднеслася зь непавагай. Бо ідуць людзі галоўным чынам з праблемамі, якія далёка не заўсёды можна лёгка задавольніць, напрыклад, калі табе кажуць ваша акцыя не санкцыянаваная, або «ачысьціце праежджую частку». Памятаю, неяк на гадавіну красавіцкага рэфэрэндума, мініравалі мы адну пяціэтажку (яна была пабудаваная акурат на месцы адной хаткі, ў якой у 18 стагодзьдзі

прыпыняўся Сувораў). Раптам выскоквае кагал амбалаў-мянтоў ды й кажа: «Прайдзёмце, калі ласка, у пастарунак». А Мікіта ласкава, па-чалавечы гаворыць: «Не, ня выйдзе». Тут і сьлёзы, і сваркі, і размовы. І, Вы ведаеце, міліцыянты ўсё зразумелі. Потым, яшчэ ў рэанімацыі Богу дзякваліза тое , што так легка ад гэтай фурыі пазбавіліся. Ў як ёй гэта ўдаецца кантактаваць зь людзьмі?»

«Дык тут галоўнае што, - мяркуе Мікіта. - Галоўнае не хітрыць, праўды не хаваць. Адразу бі па купалу - і чэшы пяткамі». Адсюль, напэўна тая сталая прыцягальнасьць, зацікаўленасьць пэўнага кола людзей да яе асобы. Калі яна, стомленая пасьля працы, вяртаецца дадому, яе абавязкова чакае група апэратыўнікаў з сабакамі каля пад'езду. Яна ня скардзіцца. Праца зь людзьмі - гэта абавязак дэмакрата.

За размовай не заўважылася, як прайшлі у залю. Між тым, на сцэне дэмакратычнае юнацтва вітае дэлегетаў Кангрэсу і рапартуе аб сваіх посьпехах у вучобе і працы. Кумачом бел-чырвона-белых сьцягоў расьцвіла заля. Пад гукі урачыстага гімну уваходзяць калёны юнакоў і дзяўчат. Выносяцца харугвы і сымбалі мясцовых арганізацыяў: Яська з арматурай (Маладзёвы Фронт), Марскі канёк (Грамадзянскі Форум), Ружовая пантэра (Маладая Грамада)...

Выходзяць скаўцяты і пачынаюць вітальную частку Кангрэсу:

*«А мара ў нас такая:*
*Каб толькі хутчэй падрасьці*
*І рэжыму Лукашэнкі*
*Болей падлы прынясьці!..»*

Эстафэту пераймаюць маладыя дзяўчынкі. Усе яны дарэчы пераможцы раённых і абласных конкурсаў «Міс Малады Фронт». Сардэчнай падзякай апазыцыі за шчасьлівае бясхмарнае дзяцінства гучаць радкі:

*«Цяжка стрымаць хваляваньне*
*Мы не забудзем гэтых мінут*
*Зьезду Карпенкі, Кангрэсу Шарэцкага,*
*Наш дзявочы скаўцкі салют!»*

Дзяўчынкі забягаюць у прэзыдыюм і ўручаюць кветкі кіраўніцтву апазыцыі і сябрам Палітбюро і Аргкамітэту. Доўгія апладысмэнты. Нездаровае ажыўленьне ў залі. Зараз паводле сцэнару - клятва. Зычна гучыць голас Паўла Севярынца:

«Дарагі старшыня ВС 13-га скліканьня, беларуская кансэрватыўная моладзь ведае, як вам дарагія геаічныя будні маладзёвага адраджэньня. У барацьбу за перамогі ідэяў буржуазнага нацыяналізму вы ўкладаеце ўсю сваю перакананасьць, аграрную энэргію і шматгранны талент. Не дарма апазыцыйнае юнацтва плянэты заве Вас, выбітнага палітычнага дзеяча сучаснасьці, натхняльнікам і сьцяганосцам новага парадку ва Ўсходняй Эўропе, нашым вечным спікерам . Клянемся: Цьвёрда трымаць у руках бел-чырвона-белы сьцяг. Заўседы і ва ўсім сьледаваць запаветам бацькоў!»

Уся заля: «Клянемся! Клянемся! Клянемся!»

Гучаць доўгія й незаціхальныя апладысмэнты. Дэлегаты і госьці вітаюць пасланцаў маладой зьмены будаўнікоў справы Пазьняка-Карпенкі-Шарэцкага. Будзе ня слушна лічыць, што праграма Кангрэсу складалася толькі з культурнай часткі. Былі даклады, дыскусіі. Памятаю першыя гадзіны форуму, справаздаўчы даклад Г.Карпенкі і хвалюючае пачуцьцё гонару за вялікія справы апазыцыі, зь якім людзі слухалі прамоўцу.

«Уступаючы ў Новы год, - гаварыў дакладчык, - дэмакратычнае кіраўніцтва забясьпечвае пераемнасьць сваёй эканамічнай палітыкі. Агульны аб'ём капіталістычных інвэстыцыяў ад заходніх фондаў, разьведак, спонсараў у дэмакратычны беларускі рух склала ў 1998 годзе больш за 3,789, 237 даляраў і 49 цэнтаў. Гэта сапраўдны ўнёсак грошаў у беларускую эканоміку. Хіба можна пасьля гэтага абвінавачваць нас у антыграмадзкай дзейнасьці».

З глыбокім задавальненьнем успрыняла аўдыторыя гэтыя словы і аднагалосна падняла мандаты за новую праграму наступнай прэзыдэнцкай пяцігодкі – праграму стабільнасьці й дабрабыту.

Разам з тым Кангрэс не хаваў недахопаў і пэўнасьці, што яшчэ дзе-нідзе сустракаюцца ў шэрагах апазыцыі прайдзісьветы й авантурысты, якія ня годныя звацца дэмакратамі-карпенкаўцамі. Аб гэтым у прыватнасьці йшла размова на закрытым паседжаньні, дзе дэлегатам быў прачытаны даклад пра культ асобы З. Пазьняка. Для шмат каго з дэлегатаў гэта быў безумоўна шок, бо з фігурай Зянона Станіслававіча зьвязвалі і зьвязваюць сьветлыя старонкі гісторыі беларускай апазыцыі. Лідэр БНФ знайшоў сабе вялікі аўтарытэт як адзін з заснавальнікаў Апазыцыі (БНФ) і прынцыповы змагар з фракцыянісцкімі апартуністычнымі плынямі ў шэрагах апазыцыі - хадыкаўскім гандызмам, лібэральнай унсоўшчынай, нацыянал-фрэйдызмам Сіўчыка, валюнтарысцкім экалягізмам Грушавога...




Ударнымі пікетамі сустрэлі знамянальны Кангрэс дэмакратычныя арганізацыі краіны. На здымку: пераможцы конкурсу «На сустрач Кангрэсу – ударны пікет» сяброўкі арганізацыі «Будзіны» г. Лёзна.

Аднак зь іншага боку Пазьняк прычыніў дэмакратычнаму руху немалую шкоду. Ён паставіў сябе вышэй за апазыцыю і адмежаваў сябе ад крытыкі, вульгарна спэкулюючы сьвятой нацыянальнай ідэяй і амэрыканскай грын-картай. Апазыцыя проста была вымушаная адкрыць узгаданныя факты і мужна іх пераадолець. У закрытым дакладзе Палітбюро Аргкамітэту культ асобы З.Пазьняка характарызуецца як грубае парушэньне прынцыпаў буржуазнага нацыяналізму, зь якім трэба пасьлядоўна змагацца. Усім дэмакратычным арганізацыям рэкамэндуецца прыбраць са сваіх офісаў бюсты, партрэты, дыванкі, кнігі, відэакасэты, зьвязаныя зь Зянонам Пазьняком.

Яскравай дэманстрацыяй маналітнага адзінства апазыцыі стала заключнае паседжаньне. На трыбуне Г.Карпенка. Ён зачытвае пастанову Кангрэсу:

«Кангрэс адзінадушна пераабраў Г.Карпенку на пасаду старшыні Палітбюро аргкамітэту Кангрэсу Дэмакратычных Сілаў і вырашыў у 5-ы раз узнагародзіць яго вышэйшай узнагародай беларускіх дэмакратаў - «Крыжом Эўфрасіньні Полацкай» за выбітны ўнёсак у разьвіцьцё апазыцыйнага руху, а таксама балятаваць яго ў якасьці агульнага кандыдата ад апазыцыі ў прэзыдэнты Рэспублікі Беларусь на выбарах 16 мая 1999 году...»

Заля грымнула шчырай і працяглай авацыяй. Усе ўстаюць. Гучаць выклікі: «Ура!» «Няхай жыве непарушнае адзінства апазыцыі і фондаў!», «Карпенка – наш адзіны кандыдат!», «Слава ! Слава! Слава!»...

Гучыць гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». ●

# X-FILES (САКРЭТНЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ)

# Крывавыя «конікі»



Апошнія перабоі зь мяса-малочнай прадукцыі выклікалі амаль вулканічнае вывяржэньне дасужых вымыслаў і чутак на старонках апазыцыйнай прэсы. Якой лухты тут толькі няма: сэксуальны дэфолт у пеўняў, наступствы эканамічнага крызысу ў Паўночнай Карэі і нават (гы-гы!) крах гаспадарчай мадэлі рынкавага сацыялізму. Пакуль бойкія журналісты наперабой аспрэчваюць лаўры Жуля Вэрна, Гэрбэрта Ўэлса і іншых клясыкаў фантастычнага жанру, пазыцыя ўрадавых мужоў куды больш рэалістычная: прадуктовы дэфіцыт ня мае эканамічных прычынаў. Ён выкліканы выключна містычнымі сіламі. Напярэдадні Новага году з-за раскручваньня ў прэсе кампаніі вакол прадуктовага дэфіцыту неяк амаль незаўважанай засталася інфармацыя аб стварэньні пад Бягомлем на базе Савету Бясьпекі і КГБ новага сакрэтнага спэцпадразьдзелу «Экзарцыст». Толькі «Імя» аддзелалася лёгкім спалохам, абвінаваціўшы новую сілавую структуру ў падрыхтоўцы апэрацыяў супраць апазыцыянэраў і дэманстрантаў. Хлусьня прадажнай прэсы відавочная: адкуль узяцца дэманстрацыям (і тым больш апазыцыі) у бягомальскіх лясах?

Прадбачу міну глыбокага шоку на твары чытача: Якая ж сувязь паміж новым атрадам нейкіх камандас і прадуктовым ажыятажам? Самая прамая, дзіўны ты чалавек. Справа ў тым, што за сёлетнім дэфіцытам прадуктаў стаіць хваля містычнай сьмерці калгасных і саўгасных кароваў і авечак, а асабліва хатняй птушкі (качак, кур і індыкоў). Пры гэтым, сьведкі і пацярпелыя ў адзін голас казалі, што бачылі на месцы злачынства... напаўчалавекаў-напаўваўкоў .

Спачатку гэты калектыўны псыхоз сьпісвалі на засільле фільмаў жахаў у рэпэртуарах відэасалёнаў і тэндэнцыйны пах ад пацярпелых. Але праз нейкі час прыйшлося прызнаць: праз 10 гадоў пасьля чарнобыльскай аварыі Беларусь упершыню з часоў Сярэднявечча стала ахвярай разгулу валкалаўкаў. Усе сумневы на гэты конт разьвеяў выпадак пад Мар'інай Горкай.

Мясцовы фэрмэр-птушкавод вырашыў пакласьці край таямнічым зьнікненьням сваіх любімых нясушак. Паставіўшы на ноч каля курніка сталёвую пастку на ваўка, ён выправіўся спаць, смакуючы хуткую расправу над мацёрым драпежнікам. Але ж раніцай пасткі ён не знайшоў. Па сьлядах было відавочна, што істота трапіла ў пастку і зьбегла ў лес. Фэрмэр адразу ўзяў сьлед. Уявіце, якім быў ягоны жах, калі праз 2 кілямэтры на ягоных уласных вачах сьляды ваўка ператварыліся ў чалавечыя. Ашалелы селянін пабег да роднага ўчастковага.

Так было канчаткова зьнятае пытаньне аб сапраўдных віноўніках прадуктовага крызысу. Усяго таго, што бракуе на паліцах крамаў пажэрлі ненасытныя ваўкалакі. Зразумела, ўзьнікла патрэба ў вырашэньні харчовай праблемы. Таму й была сфармаваная спэцыяльная група па раскрыцьцю гэтай паранармальнай зьявы. За грашыма і матэрыяльнай базай для новага падразьдзелу не пастаялі. Для кансультацыяў са Злучаных Штатаў у Бегомль былі запрошаныя спэцагенты ФБР Малдэр (Malder) і Скалі (Scully), якія маюць пасьпяховы досьвед барацьбы з амэрыканскімі вэрвольфамі. Акрамя таго, беларускі спэцпадразьдзел укамплектаваны найноўшымі ўзорамі зброі са срэбнымі кулямі, пасткамі і г.д. Увесь сьнежань асабісты склад атраду здаваў апошнія нарматывы і залікі па тактыцы выжываньня ў лясных масівах і па валоданьні апэратыўнай інфармацыяй аб магчымых праціўніках (сюды ўваходзяць перш ўсяго беларускі фальклёр аб ваўкалаўках, мэтадычка Шарля Пэро «Чырвоны каптурок» і інш). І вось 10 студзеня выйшаў на першую апэрацыю.

У гаспадарку мар'інагорскага фэрмэра было завезена каля сотні нясушак (для снадзіва), ўсталяваная спэцыяльная апаратура для вызначэньня паранармальнага выпрамяненьня і г.д., пасткі прыведзеныя ў баявы стан, срэбныя кулі адпраўленыя ў патроньнікі...

Апоўначы над фэрмай раскаціўся жахлівы пранізьлівы вой, ад якога кроў стыла ў жылах, а сэрца падала ў левую пятку. Экзарцысты нявольна ўздрогнулі. У курніку пачаўся хаос і гвалт. У промнях уключаных пражэктараў мільганула ссутуленая, пакрытая шэрай поўсьцю сьпіна. Істота шпарка ўцякала, ратуючыся ад пагоні. Пачуліся стрэлы, вой, мітусьня: Прамень ліхтарыка доктара Малдэра асьвяціў цела аголенага маладога чалавека. На правым плячы нябожчык меў татуху марскога канька... Як пацьвердзіла апазнаньне, забітым аказаўся мясцовы кіраўнік «Грамадзянскага Форуму». Для дачы паказаньняў быў выкліканы кіраўнік рэгіянальнага «Грамадзянскага Форуму» А. Карніенка. Дарэчы, спэцыялістаў адразу насьцярожыла тое, што Карніенка кульгаў на правую нагу (фэрмэр сьведчыў, што менавіта правую лапу пашкодзіў пасткай пярэварацень). «Проста падвярнуў нагу, калі гуляў у футбол зь мясцовымі сацыял-дэмакратамі», - патлумачыў Карніенка...

Дома ў маладога лібэрала знайшлі два дзясяткі яек і тушку курачкі. Зараз безумоўна яшчэ рана сьцьвярджаць, што мы маем справу з калектыўным выпадакам пярэваратніцтва сярод сяброў дэмакратычных партыяў лібэральнага кшталту, але ў любым выпадку няма аніякіх падстаў давяраць бруднай прапагандзе Свабодных Прафсаюзаў, што зьелі сабаку, даказваючы палітычныя і эканамічныя вытокі сучаснага спажывецкага крызысу. Як даводзіць навука, гэта ўсё брахня. А вось вэрсія аб ваўкалаках заслугоўвае пільнай увагі. ●

 –  = ?

# Як Жук з Германчуком пасварыліся

Афіцыйная вэрсія навагодніх падзеяў у рэдакцыі газэты «Навінкі» прымітыўная як калумбава яйка - ідэйныя разыходжаньні наконт канцэпцыі выданьня. Прынамсі гэткім чынам вядомы журналісцкі тандэм Жук-Германчук тлумачыць закулісны бок скандалу, што каштаваў І.Германчуку пасады галоўнага рэдактара. Такая трактоўка кіпішу ў «Навінах», здавалася б, павінна задаволіць цікаўнасьць грамадзкасьці, калі б не апошні запіс у працоўной кніжцы былога рулявога флагману беларускай дэмпрэсы. У графе «Прычына звальненьня» чорным па белым значыцца: «Звольнены за сыстэматычнае зьяўленьне на працы ў нецьвярозым стане».

Відавочна, што развод у «Навінах» быў далёка не палюбоўным, а ягоныя сапраўдныя прычыны патрабуюць неадкладнага асьвятленьня. Прыкладны адказ на тое, што за сабака перабег паміж нашымі героямі, дала нашаму карэспандэнту адна бабулька з вул. Зьмітрака Бядулі, якая пажадала застацца невядомай. Згодна ейнаму сакрэтнаму дасье, сапраўдная прычына разборак куды трывіяльнейшая - «не падзялілі бабу».

Як сьцьвярджае ананімны сьведка, перадгісторыя канфлікту пачынаецца недзе напрыканцы 80-ых. Тады менскі журналіст С.Дубавец і камэрсант сярэдняй рукі П.Жук зьнялі на «стомэтроўцы» для экзатычных забаваў нейкую дзеўку з клікухай Свабода, працоўны статут якой трохі не дацягваў да катэгорыі «журналіст» (гэтая прафэсія адносіцца, як вядома, да другой сусьветнай). Праз нейкі час Дубаўца застукала жонка, і задала сужанцу такі нагоняй, што апошні даў зуб ніколі нават і ня думаць пра «гэта». Дарэчы, кабель ёсьць кабель: хутка Дубаўца ўжо бачылі ў Вільні ў кампаніі з новай цёлкай, якую ён, ласкава абдымаючы за клубы, называў «Мая Нівачка». Пасьля ўзгаданага інцыдэнту ўжо нішто не замінала П. Жуку адзінаасобна карстацца плоццю Свабоды. Паступова брудныя заляцаньні перарасьлі ў сталую прывязанасьць. Жук нават аплочваў інтэрдзяўчыны, якая недзе з 1995-га рэгулярна мела праблемы зь міліцыяй, усе выдаткі на адвакатаў. Ня ведаў наш дон Жукан, што сам стаў ахвярай каварнага Купідона. Уласны ж жукоўскі падначалены І.Германчук, з выгляду сьціплы й нерашучы, даўно паклаў вока на гірлу начальніка і, выкарыстоўваючы службовы статус, выкідваў зь ёй усё, чаму ён пасьпеў навучыцца ў інтэрнатах журфаку. Вось вам сюжэт, ад якога сам Шэкспір у труне перавернецца. Але гэта толькі кветачкі. У восені 1997-га жартачкі Свабоды з законам абярнуліся трагедыяй. Аднойчы п'яная кабета так абразіла афіцыйную асобу, што пайшла пад «вышку». Скаргі і апэляцыі - нішто не дапамагло. Свабоды ня стала. Перавядзі дух чытач - зараз пачынаецца другі акт трагічнай камэдыі. Праз месяц, высьвятляецца, што ў Свабоды ёсьць багаты звар'яцелы дзядзя ў Амэрыцы, які ўвесь папярэдні час дапамагаў фінансава адзінай далёкай пляменьніцы, а цяпер у прыпадку філянтропіі вырашыў азалаціць і яе каханка, пра якога яна пісала ў сваіх лістах. Натуральна, ідыёт-янкі ня ведаў, што на гэтую пасаду могуць прэтэндаваць як найменш дзясяткі з два кандыдатур.

Пасьля гэтага ўсё зьмяшалася ў рэдакцыі «Навінаў». Вядома, Жук і Германчук сталі глядзець адзін на аднога ваўкамі. «Я быў першым мужчынам у ейным жыцьці» - сьцьвярджаў Жук, на што Германчук рэзонна парыяваў: «Ну і што! Затое сапраўдны аргазм яна атрымлівала толькі са мной!» Рана ці позна гэта мусіла перарасьці ў прамую мужчынскую разборку, што і адбылося пад навагодняй елкай у рэдакцыі.

На другой гадзіне новага году суседзі па пад'езду прыйшлі да справядлівай высновы, што ў кватэры Германчукоў надта ўжо шумна гуляюць. Зазірнуўшы «на аганёк», суседзі ўбачылі брутальную карціну крывавага п'янага мардабою. Разьдзяліўшыся на дзьве фракцыі, супрацоўнікі рэдакцыі ад душы тузалі адзін аднога.У ход ішлі пустыя бутэлькі й крэслы. І слава богу, што незадоўга перад гэтым у «Навінах» скралі ўсю тэхніку, а то б страты маглі вылічацць дзясяткамі тысячаў даляраў. Каб спыніць бойню, суседзям прыйшлося прыгразіць выклікаць падаткавую інспэкцыю.

Разьвязка была як ніколі банальнай. Зранку злы з будуна Жук разьлічыў галоўнага рэдактара паводле артыкулу КЗоТ, на што ня менш злы і зь ня меншага будуна Германчук паслаў заснавальніка. На тым і вырашылі. Цяпер кожны з пэрсанажаў канфлікту па асобку вырашае праблемы спадчыны Свабодзінага дзядзюшкі.●

Гарачая лінія
СВАБОДА
Любы капрыз за вашы грошы
Тэл.:4223322



«Яблык раздору» – Свабода на адной з інтымных абвестак пачатку 90-х

# НАЎМЫСНА НЕ ПРЫДУМАЕШ

# Новыя прыгоды паслоў у Беларусі

**Яшчэ пару месяцаў таму ідэя аб ввяртаньні эўрапейскіх паслоў у Беларусь, здавалася прыгожай казкай, вартай экранізацыі самім Спілбэргам. Сёньня, калі казка ўсе ж стала рэальнасьцю, лягічна паставіць пытаньне, што за рэзоны падштурхнулі Эўрасаюз пагадзіцца на вяртаньне сваіх прадстаўнікоў у Менск.**

Расьследаваньне «Навінак» катэгарычна сьведчыць: Захад зноў вядзе нячыстую гульню. Кампраміс зь Беларусьсю быў патрэбны Эўрапейскім структурам толькі для таго, каб разрадзіць крымінагенную сытуацыю ў Эўропе.

Для гандляроў шмоткамі на лонданскім стадыёне Ўэмблі мясцовы смог горш за падаткавую інспэкцыю. Мярзотна. Халодна. Кліентаў амаль няма. Тарчыш быццам той мокры цуцык Баскервіляў у засадзе на Холмса і бязьлітасна схіляеш па матцы ўвесь сьвет. Адно задавальненьне ў такія часы - акунуцца ў флер успамінаў аб сьветлых мінулых часах.

Гэтым і займалася місіс Джэсіка Пірс - былы ангельскі амбасадар у Беларусі, а зараз - <прыватны прадпрымальнік> у шостым сэктары на Ўэмблі. Ах, якія былі часы тады ў Менску. Сэмінары ў «Гішпанскім кутку», прыёмы лідэраў апазыцыі на Троіцкім, групавыя начныя прэс-канфэрэнцыі... А потым, як страшэнны сон - крызыс вакол Драздоў, чамадан, аэрапорт Хітроў, і вуаля: былы амбасадар Яе Вялікасьці - звычайны брытанскі чаўнок, які штомесяца цягаецца ў Ірляндыю па джынсы, каб потым штурхнуць іх на Ўэмблі і нешта з гэтага наварыць. Зраземела, акрамя гэтага ёсьць яшчэ нейкія крыніцы навару, але ўся роўна справы - Shit!

- Мадам Пірс.

Нечаканы голас з вонку вярнуў Джэсіку з прыемных настальгічных рэвю ў шэры Лондан. Ба! Перад ёй фарцаваўся асабістай пэрсонай стары знаёмы па Менску - былы французскі амбасадар у РБ Бэрнар Фасье. Праўда, мсье здорава зьмяніўся. Ад былых гусарскіх замашак і арыстакратычных мансаў застаўся толькі стары, дужа паношаны пінжак ад Бабруйскай швейнай фабрыкі. Джэсіка ведала, што лёс таксама брутальна абышоўся зь яе французскім калегам: каб сьцягнуць канцы з канцамі Фасье вымушаны гандляваць жоўтымі газэтамі ў прыгарадных электрычках на Ліёнскім вакзале. Акрамя таго яго ведаюць як экспэрта па кантрабандзе сьмятаны і яек з Гішпаніі ў Нямеччыну.

- Ёсьць базар, місіс Пірс, - Фасье зрабіў таямнічы выгляд - зьявілася магчымасьць абстрапаць адно няхілае дзельца і вярнуцца ў Беларусь ізноў. Падлай буду!

- Кіньце дурное, Бэрнар. Вы п'яны, ці абслухаліся беларускай службы Радыё Свабода. Забудзьце назаўсёды пра свой маленькі прыгожы домік у Драздах. Лукашэнка - гэта ўсур'ёз і надоўга. Давайце лепш бліжэй да цела. Што ў Вас сёньня.

- Добра, Мадам Пірс, ainsi ёсьць сьвежая аптовая партыя «чорнага» L&M. Трэба каб твае бабулькі на прыпынках пушарнулі яе...

Прыкладна такі вось дыялёг вялі месяц таму нашыя добрыя знаёмыя Д.Пірс і Б.Фасье, якія зараз у Беларусі праціраюць штаны ў амбасадзе GBR і адпаведна Францыі. Ня цяжка зрабіць выснову, што для заходняга грамадзтва людзі такога тыпу былі зусім не падарункам. З самага пачатку сыходу зь Беларусі ў чэрвені 1998-га былыя паслы не пажадалі адаптавацца да заходніх інстытутаў у якасьці нармальных бюргераў, аддаўшы перавагу маргінальнаму тыпу жыцьця. Вышэй мы згадалі пра бліскучыя кар'еры, што зрабілі ў крымінальным сьвеце Д.Пірс і Б.Фасье. Недалёка застаўся й нямецкі прадстаўнік Хорст Вінкельман, які адкрыў сябе як прыроджанага сутэнэра. Ужо ў ліпені нэонавыя рэклямы стрыптыз-бараў Рыпербану (сусьветнавядомага цэнтру сэксуальных забаваў) папоўніліся новай грандыёзнай шыльдай - «Штовечара крывава-эратычнае шоў для аматараў жорсткіх відовішчаў. «From Belarus with love». Дзеці да 18 гадоў і сябры ХДС-ХСС не дапускаюцца. Пастаноўка Вінкельмана ў алегарычнай форме распавядала гісторыю сучаснай Беларусі. Сэксапільная дзяваха з імем Вайсрутэнія як і яе 14 сясьцёр страчвае ў дзяцінстве бацькоў і вымушаная ісьці ў пошуках хлеба на панэль. Там яна сустракае аднаго заходняга дыплямата, у якога ёсьць сур'ёзныя прапановы. Разварочваецца кароткі, але бурны раман. Але абставіны разлучаюць каханкаў. Не пасьпявае пурытанін-інтурыст адваліць, як на сцэне зьяўляецца хор рускіх мужланаў з балалайкамі, якія бяз комплексаў уцягваюць Вайсрутэнію ў свае эрагенныя фантазіі. Пачынаецца пэрманэнтная групавуха.

У кароткіх перапынках паміж оргіямі беларуская «мадам батэрфляй» зачытвае лісты з Захаду, дзе былы хахаль выражае гатоўнасьць даравацъ усё і наладзіць былыя кантакты. Вайсрутэнія у душы сама адчувае, што трапіла ў дрэнную кампанію, але разарваць заганнае кола яна ня можа. З рускімі кліентамі яе зьвязвае брутальны славянскі сэкс. Зразумела, што прад'юсэрства брудных вадэвільчыкаў было толькі вярхушкай айсбэру брудных Вінкельманаўскіх афэраў. Таксама не цураўся прусак спэкуляцыяй валютай і вывазам алюмінію.

Але больш за ўсіх раскру-ціўся янкі Спэкхард, які выгадна выкарыстаў свой вобраз барацьбіта і пакутніка за дэмакратыю, што быў раскручаны ў заходніх СМІ. Хутка пад дахам Спэкхарда падвязалася цэлая армія нью-ёрцкіх бамжоў, якая паставіла працу па выцягваньні грошаў пасажыраў мясцовай падземкі. На практыцы гэта выглядала наступным чынам: У вагон уваходзяць кабета зь дзецьмі і галосна заводзіць пласьцінку: «Людзі добрыя, дапамажыце. Мы не тутэйшыя. Мы амэрыканскія дыпляматы зь Беларусі. Нашу хатку канфіскаваў беларускі дыктатар, а мы вымушаныя жыць на вуліцы». Хатнія гаспадарыні ад такіх маналёгаў проста ўпадаюць у сьлёзны аргазм і ахвотна лезуць у скураныя кашалькі па баксы.



Яны вяртаюцца. Ззаду засталіся ўсе фармальнасьці: візы, мытня, доўгія чаканьні ў чэргах па білеты Белавія. Наперадзе – новы раўнд гульні ў рэзыдэнтаў... На здымку: траса з аэрапорту Менск-2. Паслы зь сем'ямі, прыслугай і небагатым скарбам рушаць у сталіцу.

Між тым, незде ўвосені Інтэрпол атрымаў інфарма-цыю аб рэструктурызацыі міжнароднага злачыннага руху і зьяўленьні на крымінальным гарызонце новай бандыцкай групоўкі - «драздоўскія». Як, напэўна здагадаўся паднатарэлы на Карэцкім і Чэйзе чытач, на абшчаку банды сядзеў выключна былы дыпля-матычны корпус заходніх краінаў у РБ. Злачынны бэнэфіс новага крымінальнага сындыкату былі настолькі ўражлівым, што пытаньне аб драздоўскіх было уключанае ў парадак дня саміту ЭС у Манчэстэры. Старанна зьвесіўшы ўсе «за» і «супраць», вярхушка ЭС не знайшла нічога лепшага, як замірыцца з Лукашэнкам і выслаць былых паслоў назад, у Беларусь. Натуральна, узьнікала пытаньне, ці пагодзяцца былыя паслы на рэпатрыяцыю (чытай, на 102-і кілямэтар). На дзіва агентаў Эўрарады, экс-паслы выразілі падазрона бурнае жаданьне хоць зараз адправіцца ў Рэспубліку Зла. Вы, безумоўна, спытаеце: чаму? Ларчык адкрываецца проста.

Справа ў тым, што за некалькі дзён да саміту ЭС у штаце Алабама аддала богу душу старая цешча Спэкхардаў, якая разам з дачкой і зяцем прайшла праз усе этапы драздоўскай эпапэі. На сьмяротным адры mother in law прызналася, што цікаючы зь Менску, схавала ў пяты элемэнт спальнага гарнітуру рэзыдэнцыі пасла ЗША (верагодна, начную вазу) каштоўнасьцяў на суму каля 1 млн. даляраў. Сьпіс схаванага скарбу ўражвае - тут і каля двух дзясяткаў старажытных абразоў 14-19 стагодзьдзяў, срэбныя і залатыя вырабы, у тым ліку з манаграмамі Ягайлы, Радзівілаў, Альшанскіх, карціны беларускіх прыгонных майстроў, рэчы царкоўнага культу...

Уявіце рэацыю Спэкхарда, які даўно ўжо зьмірыўся са стратай фамільнага антыкварыяту і перакладаў усю адказнасьць за гэта на «праклятых вэртыкальшчыкаў». Яшчэ больш ашалелі ад цешчынай выхадкі калегі Спэкхарда па злачынным руху (як і мае быць, мафіёзі не давяраюць адзін аднаму і кантралююць кожны крок сваіх «партнэраў»). Натуральна, яны таксама вырашылі не заставацца ў баку й прыняць удзел у пагоні за цешчынай спадчынай. А тут акурат падасьпела прапанова Эўрасаюзу.

Хутка самалёт Люфтганзы, напоўнены пасламі як бочка сялёдкай, узяў курс на Менск. Стрымліваючы эмоцыі, паслы-авантурысты праціснуліся праз кардоны журналюг і наперагонкі памчаліся ў Дразды да запаветнага пятага элемэнту цешчынага гарнітуру. Там іх чакала фіяска.

Аказалася, што ўсю старую мэблю сьпісалі, каб парадаваць замежных гасьцей новай. Паслы кінуліся былі па гарачых сьлядах гарнітуру фаміліі Спэкхардаў і - зноў аблом.

Яшчэ ў ліпені бамжы, якія аблюбавалі апусьцеўшыя домікі ў Драздах, знайшлі спэкхардаўскія каштоўнасьці і як сумленныя грамадзяне перадалі знойдзены скарб у міністэрства Ціцянкова. Зразумела мільён даляраў спатрэбіўся нашай маладой дзяржаве. На іх адміністратар Прэзыдэнта заліў каток на праспэкце Машэрава.

Гэты бязумны, бязумны, бязумны, бязумны сьвет. ●

# Салёнае золата

Салігорскія старажылы скардзяцца, што больш не пазнаюць родны горад. Яны ведалі іншы Салігорск - ціхі, утульны, зялёны райцэнтар, дзе ўсе падзеі - крававы мардабой у 12-м мікрараёне ці новая буза незалежных прафсаюзаў. Але вецер пераменаў не пашкадаваў старыя дэкарацыі. Сёньня Салігорск - мэтраполія беларускага сацыяльнага дна. Вінаватае як заўсёды золата, вечны біч чалавецтва. Вынаходнікам д'ябальскага мэталу аказаўся нейкі наркаман зь «Белкі», хімічны геній, які ў пошуках новага ўбойнага раствору сынтэзаваў усё, што трапілася пад руку. Аказалася, што шляхам няцяжкай хімічнай рэакцыі з дапамогай таннага распушчальніка і «Салутану» можна выдзеліць зь любога кавалку калійнай солі крупіцы сапраўднага чырвонага золата вышэйшай пробы. Зранку наркот ужо ашываўся на мясцовым старавакзальным рынку, прапануючы заежджым каўказцам «карабок» жоўтага парашку за дазьняк «чорнага».

Зразумела, што гэта сышло новаму Мендзялееву раз-другі, але, калі ён прыйшоў на рынак зь мехам золата і стаў гандляваць ім, быццам семкамі - на стаканы,- шпана з Шанхаю адразу зацікавілася крыніцай такога багацьця. Такім макарам, сакрэт вырабніцтва зьліткаў стаў вядомы нават апошняму сабаку з самай далёкай шахты.

Гэта адбылося на другі дзень пасьля Дня Шахцёра, калі ўвесь горад круціла ад постсьвяточнага бадуна. Вестка пра апошнія дасягненьні арганічнай хіміі хутчэй за агурэчны рассол зьняла ў грамадзянаў рэшткі пахмельля. Праз паўгадзіны ў рэгістратуры мясцовай паліклінікі ўсе талоны да тэрапэўта былі разабраныя на паўгады наперад, натоўпы сымулянтаў бралі штурмам прыёмныя кабінэты, патрабуючы рэцэптаў на «Салутан» з трыма пячаткамі. Пасьля таго, як першыя запасы калійнай солі скончыліся, салігорцы кінуліся на дачныя соткі, каб самім здабываць золатаўтрымальную пароду. Пасевы бульбы, агуркоў, маку былі бязьлітасна вытаптаныя. На іхным месцы ў лічаныя хвіліны зьявіліся мэтровыя катлаваны, запоўненыя людзьмі з рыдлёўкамі, кіркамі і шуфлямі. Відавочна, што плошча падсобных гаспадарак не магла задаволіць апэтытаў стараццеляў. Тым больш, што электрычкі і аўтобусы не пасьпявалі скідваць партыі авантурыстаў.

У самым хуткім часе салігорскія дыгеры паклалі вока на землі мясцовых калхозьнікаў. У вясковыя сельсаветы зачасьцілі «дабрадзеі», гатовыя выгодна набыць калгасныя абшары. Там, дзе сяляне ўпарціліся, на дапамогу прыходзіла гарэлка. Гэтак, за блёк «Орбіт бяз цукру» і горстку польскай біжутэрыі ўдрабадан нажорты старшыня калгасу «Пагост» прадаў салігорскім ліхадзеям усю тэрыторыю калгаснай гаспадаркі і нават гатовы быў аддаць за шакаладку для жонкі ўвесь аўтапарк. Іншыя калгасы не паддаліся на агітацыю гарадзкіх «залатавустаў» і выступілі на сьцяжыну сапраўднай вайны за свае землі. Узброіўшыся дзедаўскімі стрэльбамі, туземцы абстрэльваюць прыгарадныя аўтобусы і электрычкі, бяруць у закладнікі гарадзкіх грыбнікоў і час ад часу нават вырашаюцца на сьмелыя вылазкі ў спальныя кварталы гораду. На мапэдах «Карпаты» яны акружаюць нейкую школьную дыскатэку і гасяць усіх без разбору штакетамі ад плоту.




Між тым, як на акраінах не сьціхае страляніна, цэнтар гораду гудзіць. Калісьці ціхая салігорская кавярня «Алеся», а сёньня салён «У крутога Джоні» перапоўнена людзьмі самай дурной наружнасьці: сутэнёры, шулеры, гандляркі цыгарэтамі, спэкулянты з старавакзальнага рынку, але больш за ўсё тут, безумоўна, стараццеляў-шахцёраў. Яны, першыя ахвяры залатой ліхаманкі, зьехаліся сюды з усіх канцоў Беларусі ў надзеі паспытаць шчасьця. Удзень наваяўленыя салігорцы калупаюць тэрыконы ўсіх чатырох руднікоў або мыюць пясок на крыніцы ў Тычынах, а ўвечары спускаюць дзённы «ўлоў» на гарэлку або на гульню ў «тысячу». Норавы тут жудасныя. Час ад часу ў некага з удзельнікаў гульні здаюць нэрвы, і ён катапультуе ў паветра каскад бруднай лаянкі: «Дык у цябе ж краплёная хваля ў рукаве...» Потым усё вырашаюць сэкунды - хто хутчэй выцягне з кішэні адбойны малаток і прафэсійна прадзіравіць башку праціўніка. Зранку чарговы труп з трыма дзіркамі ад сьвярла 6-га калібру вылавяць у фантане каля помніка Леніну.

Але галоўнае ліха прыіскаў - гэта арганізаваны крымінал. Чорны Боб Аед, лідэр мясцовага «Бандыцкага Незалежнага Прафсаюзу» (БНП), кантралюе ўвесь горад. А што міліцыя? - спытаеце вы. А нічога. Шэрыфы нават не высоўваюцца далей авэню Сямёх Лінчаваных (былы праспэкт Міру). Усё, на што здатныя «блюсьціцелі парадку»- друкаваць абвесткі «Wanted: небясьпечны гангстэр Боб Аед» з кацыроўкамі штодзённага курсу галавы салігорскага дыспэрадо і расклейваць іх па горадзе. Напярэдадні апошняга скачку даляра попыт на «жывога або мёртвага» Боба Аеда складаў $37.978 (па курсу Нацбанку). А той, дарэчы, і не хаваецца. Штоночы ён нахабна ўвальваецца ў «Алесю», адчыняючы дзьверы каваным кірзавым ботам з срэбнымі шпорамі. На ім вялікі шахцёрскі шлём з шырокімі палямі, два чорных адбойных малаткі за поясам. Ён уразвалку праходзіць праз анямеўшую залю за свой пэрсанальны столік. Якраз у гэты час пачынаецца начное стрыптыз-кабарэ з удзелам першых зорак расейскай папсы - Апінай, Долінай, Зыкінай, Бабкінай... Поп-ідалы шоў-бізнэсу лічаць за гонар выступаць на забляваных падмостках салігорскіх салунаў, бо ня ў прыклад прыжымістым юрмальскім буржуа, салігорскія бічы плоцяць чыстымі зьліткамі. А яшчэ кажуць, што з наступнага году за салігорскі футбольны клюб «Шахцёр» пачне выступаць Ранальда. ●

## СУПЭР ТЭСТ

# ХТО ТЫ?



## Заклапочаны дэмакрат ці імпатэнт-рэспубліканец?

Увесь сьвет расшчэплены на дзьве часткі: прыхільнікаў адо праціўнікаў сэксуальных прыгодаў прэзыдэнта ЗША Клінтана. Даваў ці не даваў? Брала ці не брала? Гэта ключавыя пытаньні сёньня для кожнага сапраўднага палітыка. У баку застаюцца толькі палітычныя трупы, аўтсайдэры і палітэмігранты. Прапануем вам канчаткова вызначыцца наконт вашых палітычных сымпатыяў-антыпатыяў. Зрабіце свой свой сумленны палітычны выбар! Кіруйцеся маршрутамі-адказамі на пытаньні нашага тэсту і праз колькі хвілінаў вы даведаецеся, за каго б вы прагаласавалі на прэзыдэнцкіх выбарах 1999 году (зразумела, у ЗША).
Такім чынам, на перад!..

Вам падабаюцца брунэткі? (Так / Не)

Ці хацелі б Вы стаць прэзыдэнтам ЗША? (Так / Не)

Ці здараліся ў Вас службовыя раманы? (Так / Не)

Ці граеце Вы на саксафоне? (Так)

Ці лічыце Вы, што заўсёды трэба казаць праўду, праўду і толькі праўду? (Так / Не)

Ці падабаецца Вам фільм «Багдадзкі вор»? (Так / Не)

Ці фінансуеце Вы беларускую апазыцыю? (Так / Не)

Ці падабаюцца Вам дамы ў вечаровай сукенцы сіняга колеру? (Так / Не)

Як Вы ставіцеся да імпічмэнту прэзыдэнтам? (Так / Не)

Вы праяўлялі агрэсію да вусатых мужчынаў? (Так / Не)

Ці любіце Вы гучныя судовыя працэсы? (Так / Не)

Ці любіце Вы разнастаіць свой сэксуальны рэпэртуар? (Так / Не)

Ці касілі Вы ад войска па сэксуальнай няўтрымаласьці? (Так / Не)

Ці падабаюцца Вам атракцыёны са сланамі? (Так / Не)

Вам падабаюцца аслы? (Так / Не)

Ці маеце Вы настальгію па Рэйгану? (Так / Не)

Арканзас – гэта самая высокая гара ў Беларусі? (Так / Не)

Ці выпісваеце Вы газэту «Рэспубліка»? (Так / Не)

Вы дэмакрат? (Так / Не)

З вамі ўсё ясна! Вы – сэксуальна заклапочаны тып, якому самае месца ў прэзыдэнцкім крэсьле. Сьмела выстаўляйце сваю кандыдатуру на выбары! Да сустрэчы ў Вярхоўным Судзе!

Цяжкі выпадак... Вашае крэда – падглядаць у авальную Залю. З вас атрымаецца добры апазыцыянэр. Раім вам завесьці сабе каханку, а потым прайсьці тэст яшчэ раз.

# Лідэр Нацыі

Цёмная-цёмная ноч. Усе людзі даўно сьпяць. Ня сьпіць толькі злавесная радыкальная апазыцыя, якая ў цёмнай-цёмнай начы робіць свае цёмныя-цёмныя справы...
Малады патрыёт белай расы Мікус прабіраецца на тайную сходку Беларускага Клану Свабоды...




А наогул гэта яшчэ хто такі? Нешта ня памятаю я такога рыла ў нашым клане.

Гэта?.. Гэта мы... У сэнсе я, лідэр нацыі...

Што?!. Хто?! Якая гніда пасьмела сказаць такое мне — сапраўднаму лідэру, стопрацэнтнаму арыйцу! Зараз паглядзім...

Вітаю!

Я — той самы 'юбэрмэнш. Вы чакалі мяне — і я прыйшоў

Спакойна, рэбя, спакойна! Толькі бяз рук! Я разумею, што праўда можа быць і горкай

Разам мы скаланем гэтую баязьлівую твань! Толькі разам! Толькі лучна! Я прашу, толькі бяз рук!

Ты, мудак, у вочы глядзець! Зараз я цябе скалану! Паўтарай за мной: Высоцкі – вялікі правадыр, лідэр Нацыі...

!!!

Высоцкі – вялікі правадыр, лідэр Нацыі...

Высоцкі – вялікі правадыр, лідэр Нацыі...

Я толькі хацеў даведацца, ці ўваходзіце вы ў арэал распаўсюду нашай газэты...

Ой!

Ё... х..., б..., п..л м... жопа!!!

Панімаіш па-рускі?

Сам дурак! І ўсе вы дуракі! А я ўсяроўна, усяроўна...

Ах ты маленькі гадзёныш! Чакай, зловім – парвем твой зад на свастыкі!

Усяроўна гэта мы – лідэр Нацыі! Пра нас яшчэ песьні будуць сьпяваць!

Пачынаем вечаровую гімнастыку! Пастаўце ногі на шырыні плеч, і-і-і-раз, два-а-а...

Хто ты-хто ты?!..

Ратуючыся ад пагоні, Мікус выпадкова трапіў на канспіратыўныя заняткі шэпінгам падпольнага «Цёмнага Легіёну»...

?!.

А ты ў войску служыў, салага, каб лідэрам Нацыі звацца?

Я..., я чытаў...

У аснову коміксу пакладзеная народная казка пра казьляня, які ўмеў лічыць да дзесяці, чытаць «Майн кампф» і ўважаў сябе за крутога арыйскага казла. Усе магчымыя супадзеньні імёнаў ці назваў арганізацыяў маюць выпадковы характар.

# Адзін год у «Навінках»!


НАВІНКІ


НАВІНКІ

зайцы forever!

8


НАВІНКІ


НАВІНКІ

4 6 10 14 16

ВЯЛІКІ ПО СТ


НАВІНКІ

6 8 10 12


НАВІНКІ

4 6 8 10 11


НАВІНКІ

4 6 8 10

асаблівасьці нацыянальнай Новага Году


НАВІНКІ

2 4 10 14





Абсалютна незалежная газэта "НАВІНКІ" В.а. заснавальніка і галоўны рэдактар гер Нямчук; пры творчай падтрымцы менскага контар-культурнага бомонду. За недакладнасьць пададзеных матэрыялаў рэдакцыя адказнасьці не нясе. Тыраж 299 экз. На правах рукапісу.